# Веснкі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlennị**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 4 (614)**
**Красавік 2017 г.**


## Акцыя пратэсту і салідарнасьці ля кансуляту Рэспублікі Беларусь у Нью-Ёрку

У пятніцу 24 сакавіка 2017 года ў сувязі з апошнімі падзеямі ў Беларусі, пратэстамі насельніцтва і рэпрэсіямі з боку ўладаў, на Мангэтане прайшла акцыя каля касуляту Рэспублікі Беларусь у Нью-Ёрку, арганізаваная Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня". Напачатку акцыі выступіў старшыня Згуртаваньня сп. Віталь Зайка, які распавёў пра сумнавядомы дэкрэт Лукашэнкі №3, які ўвёў падатак на беспрацоўе для жыхароў Беларусі.

Некалькі тыдняў таму, у лютым месяцы, пачаліся пратэсты супраць гэтага падатку, прычым, калі першы мітынг прайшоў у Менску, дык наступныя прайшлі шмат у якіх іншых гарадох Беларусі, у якіх раней не было заўважана шмат сацыяльнай і палітычнай актыўнасьці, напрыклад, у Бабруйску, Воршы, Баранавічах, Рагачове, Маладэчне, Слоніме ды інш. Людзі перасталі пасыўна ўспрымаць тыя экспэрымэнты, якія на імі ставіць рэжым Лукашэнкі. Але ў адказ на мітынгі й дэманстрацыі ўлада пайшла па звыклым шляху рэпрэсіяў, арыштаў, хуткіх судоў, што ігнаруюць паказаньні сьведкаў і затое цалкам карыстаюць сфабрыкаваныя абвінавачаньні збоку АМОНу і міліцыі, якія часьцяком зусім абсурдныя і супярэчаць лёгіцы. Прамоўца ў прыватнасьці сказаў: "Таму сёньня мы выйшлі на гэтую пляцоўку перад кансулятам Рэспублікі Беларусь, каб сказаць сваё "не!" палітыцы рэжыму Лукашэнкі і выказаць падтрымку беларускім людзям, якія выходзяць пратэставаць супраць гэтай палітыкі ў абарону сваёй годнасьці й чалавечых правоў".

У акцыі ўзялі ўдзел больш за 50 чалавек, некаторыя зь іх прыбылі з Маямі й іншых мясьцінаў Флёрыды, з Філядэльфіі й Нью-Джэрзі. Гучэлі прамовы з пратэстам супраць абсурднага антычалавечага падатку на беспрацоўе і супраць рэпрэсіяў і тэрору ў Беларусі; выказвалася салідарнасьць з пратэстуючымі ў гарадах і мястэчках Беларусі. Падкрэсьлівалася небясьпека дзеяньняў Расеі, якая "пад шумок" можа разьвязаць дзеяньні па інкарпарацыі Беларусі, як гэта было падчас падзеяў на кіеўскім Майдане ў 2014 годзе.

Напрыканцы мітынгу была прынятая рэзалюцыя з патрабаваньнем адмяніць адыёзны дэкрэт Лукашэнкі пра падатак на беспрацоўе і вызваліць усіх затрыманых і зьняволеных на акцыях пратэсту. Была падкрэсьленая салідарнасьць з пратэстоўцамі. Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, гучэлі лёзунгі, мінакам раздаваліся ўлёткі пра мэты акцыі.

***Віталь ЗАЙКА***



# Сакавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня” і адзначэньне 99-х угодкаў незалежнасьці БНР

У суботу 25 сакавіка 2017 года ў Доме Маракоў на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў чарговы, сакавіцкі, сход Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу з уступным словам выступіў старшыня Згартаваньня сп. Віталь Зайка. Прамоўца распавёў коратка пра значнасьць і надзённасьць найвялікшага беларускага нацыянальнага сьвята і закрануў гісторыю і падзеі, што адбыліся ў тыя далёкія цяпер часы, калі беларусы поруч з іншымі народамі Эўропы заявілі на руінах некалькіх імпэрыяў аб сваіх правах на незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, і што кожны народ варты збудаваць свой нацыянальны дом. Менавіта абвешчаньне БНР зрабілася перадумоваю ўтварэньня ланцужку беларускай дзяржаўнасьці, што перажыла камуністычнае панаваньне і, дзякуючы высілкам дэмакратычнай дэпутацкай групы, а таксама высілкам мільёнаў беларускіх патрыётаў, прывяла да аднаўленьня беларускай незалежнасьці ў 1991 годзе.

Сп. В. Зайка адзначыў, што сёлета сакавік і 99-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі азмрочаныя рэпрэсіямі й перасьледам, якія рэжым Лукашэнкі ўжывае супраць беларускіх людзей, што падняліся супраць несправядлівага падаткаабкладаньня і патаптаньня чалавечай годнасьці. Тым ня менш падвышэньне актыўнасьці людзей у Беларусі дае надзею на тое, што неабмежаванае панаваньне рэжыму Лукашэнкі набліжаецца да краху, і ў будучыні, магчыма ўжо на 100-я ўгодкі незалежнасьці ў наступным годзе, мы будзем сьвяткаваць самае вялікае беларускае сьвята ўжо ў вольнай і сапраўды незалежнай, сапраўды беларускай Беларусі.

Затым перад прысутнымі выступіў паэт, сьпявак і музыка сп. Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён коратка распавёў для моладзі пра сябе і сваю творчую дзейнасьць, пра сваю “творчую майстэрню”. Затым сп. Сокалаў-Воюш выканаў пад гітару шэраг сваіх вядомых песьняў, сярод якіх былі “Ніколі не будзе над намі Расея”, “Прыстанкі”, “На барыкадзе”, “Каханыя-любыя”, “Аксамітны летні вечар” ды іншыя. Адмыслова да апошніх падзеяў у Беларусі музыка напісаў песьню “Годзе! “, якую з задавальненьнем выканалі разам усе прысутныя на сходзе.

Пасьля афіцыйнай часткі адбылося сьвяткаваньне беларускага нацыянальнага сьвята, а таксама калегаваньне і знаёмствы, пры віне і пачастунках.



Сяржук Сокалаў-Воюш

**Віталь ЗАЙКА**



# Гуканьне вясны ў Брукліне



Здымак Сержа Трыгубовіча

Міжволі ўзгадваюцца радкі расейскага паэты Фёдара Цютчэва, напісаныя яшчэ ў 1836 годзе:

*Зіма нядарма зьліцца,*
*Прайшля яе пара –*
*Вясна ў вакно стучыцца*
*І гоніць са двара...*

Сапраўды, пасьля Стрэчаньня зімы зь вясною, што адбываецца штогод 14 лютага, замест пацяпленьня ў Нью-Ёрку пачаліся дзіўныя перапады надвор'я: то +21, а праз дзень -10. Пайшла рэальная барацьба зімы зь вясною.

Паколькі гукаць вясну можна з 1 сакавіка да Вялікадня, то спачатку мы прызначылі правядзеньне абраду на 5 сакавіка, але -10 у Нью-Ёрку з мокрым парывістым ветрам змусіў зрабіць карэктуру. Перанесьлі імпрэзу на тыдзень пазьней. Сыноптыкі абяцалі нулявую тэмпературу, а ўраньні зноў аказалася -10. Адступаць не было куды.

Дзякуй Богу, што ёсьць у нашым асяродзьдзі гэткая зухаватая Ганна Шарко, якая за што ні возьмецца – усё зробіць і іншых за сабою павядзе. Прапанавала яна правесьці нашае Гуканьне ў бруклінскім Праспэкт парку на маляўнічым узбярэжжы возера ля альтанкі. Усе пагадзіліся.

Вецер з возера адчуваўся паўсюль. Рукі й твары качанелі ад холаду. Пачаў браць сумніў, ці прыедзе ж хто. Ажно прыехаў зь Нью-Джэрзі Сяржук Сокалаў-Воюш з жонкаю Ганнаю і сынам Сьветавітам, а за імі пачалі прыяжджаць і іншыя хлопцы й дзяўчаты, нават двое маладзенькіх маці зь немаўлятамі.

Было вельмі халадно, але ўсім хацелася пакрасавацца ў вышыванках, таму хлопцы пачалі апранаць іх проста наверх куртак з капюшонамі. Таму выглядалі яны крыху камічна-грубаватымі. Адзін толькі Алесь Тур, які й у гэткае надвор'е плавае ў акіяне па пятнаццаць хвілінаў штодня, красаваўся ў адной ільняной вышыванцы.

Пачалі гукаць вясну:

*Вясна, хадзі ў двору,*
*Нясі ключ за сабою,*
*Зіму замыкаці,*
*Вясну адмыкаці...*

Каб сагрэцца, закружыліся ў хуткіх карагодах, зьмяняючы адну песьню на другую. Ганна адарыла ўсіх печывам у выглядзе птушак. Дзеці пасыпалі на пагорку грэчкі, каб хутчэй прыляталі птушкі й прынесьлі нам на скрыдлах цяпло. Тады пайшлі тапіць у возеры ляльку-ведзьму Марэну, як сымболь зімы, холаду ды зла, каб разам зь ёю зьніклі й усе нашыя праблемы й хутчэй запанавала вясна ды цёплыя дзянёчкі.

І тут ужо дзяўчаты не ўцярпелі й накінулі на плечы Алеся Тура цёплае пакрывала. Было нас усіх шэсьцьдзесят два чалавекі ды двое немаўлят. Прыяжджалі людзі з Філядэльфіі ды іншых ваколіцаў. Выдатна, што гэткія імпрэзы аб'ядноўваюць нашых суродзічаў з розных беларускіх суполак Нью-Ёрку.

Загукалі мы вясну, і ўжо як ні злуецца зіма, але хутка прыйдуць цёплыя веснавыя дзянькі.

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

У сераду **26 красавіка 2017 года** ля сядзібы ААН на Мангэтане Згуртаваньне "Пагоня" ладзіць мітынг, прысьвечаны 31-й гадавіне катастрофы на Чаробыльскай АЭС. Імпрэза ладзіцца як праява салідарнасьці беларускай грамады Амэрыкі зь беларусамі, што пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі. Адначасна гэта будзе выказ пратэсту супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі ў дачыненьні да лёсаў, здароўя і дабрабыту беларускіх людзей, што дасюль жывуць на забруджаных радыяцыях абшарах Беларусі.

Месца правядзеньня: ***Ralph Bunche Park*** на скрыжаваньні *Першай авэню і 43-й вуліцы*. Пачатак а **12.30** папаўдні.

Запрашаем усіх неабыякавых беларусаў і прыяцеляў Беларусі.

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Route 66



Ёсьць людзі-дрэвы, ёсьць людзі-студні, ёсьць людзі-канапы, а ёсьць людзі-дарогі. Я дык з апошняга племя. Род гэты дзеліцца на розныя падгрупы. Адныя любяць дарогу напрасткі, другія ў нікуды, трэція аддаюць перавагу шляху наперад, а я люблю дарогу назад. І нават калі даводзіцца ехаць уперад, то, звычайна, інтуітыўна думаю ўжо пра вяртаньне – пра тое, ці хутка назад і ці па той самай дарозе... Калі еду цягнікам, то сяджу задам наперад. Калі на машыне, напрыклад, з Канзасу ў якую-небудзь Арызону, то мэлянхалічна пазіраю ў задняе люстэрка. Калі самалётам зь Вічыты, з гораду з найменшым лётнішчам, то коратка перад стартам выпіваю віскі. Па першае, дапамагае забыцца пра вышыню і больш-менш спакойна дачакацца пасадкі; па другое, гарэлка ў адпаведнай дозе – гэта таксама пэўная форма вяртаньня...

А яшчэ не ўяўляю дарогу, асабліва доўгую, бяз кніжкі. У дзяцінстве я ўсюды цёгаў з сабою нямецкі фразэалягічны слоўнік з малюнкамі. Даходзіла да таго, што браў яго нават у матацыклетную каляску, у якой час ад часу прыходзілася пасядзець сутуліўшыся пад брызэнтам. Калі трэба заставацца дома, то харошая кніжка можа на нейкі час замяняць дарогу.

У Амэрыцы варта пабываць хоць раз, хай нават адно дзеля асалоды ад адчуваньня амэрыканскай дарогі.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäêè³ é àõâÿðàâàíüí³:

І. Валковіч ................60
Ю. Валковіч ..............60
А. Голубева ...............60
А. Казімірскі ..............60
А. Каляда .................60
А. Круковіч ...............60
І. Кумец ...................60
У. Матрунчык .............60
А. Міхалюк ...............60
М. Можджэр ..............60
Ю. Мятлюк ...............60
Э. Панамарэнка ...........60
В. Петрушэнка ............60
В. Семянчук ...............60
С. Сіткевіч ................60
Н. Сямёнава ..............60
З. Сямёнаў ................60
А. Тоўсьцік ................60
К. Шакуноў ................60
Д. Ягораў ..................60
А. Ярмаловіч ...............60

**Усім шчыры дзякуй!**

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **8-га красавіка 2017 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца на сайтце **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

В. Балашчэнка ............30
І. Валковіч ................30
В. Зайка ...................30
А. Казімірскі ...............30
В. Камоска ................30
А. Круковіч ................30
І. Кумец ....................30
М. Марчук ..................30
У. Матрунчык .............30
А. Міхалюк ................30
М. Можджар ..............30
Ю. Мятлюк ................30
Э. Панамарэнка ...........30
В. Петрушэнка ............30
А. Сыты ....................30
З. Сямёнаў .................30
А. Тоўсьцік .................30
К. Шакуноў .................30
Д. Ягораў ...................30
А. Якуш .....................30
Р. Карп .....................25

**Шчыры дзякуй!**

***Шаноўныя сябры!***

*Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на наш бюлетэнь. (**гл. інфармацыю аб стане падпіскі на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Паважаныя **Ж. Карнілава, Н. Матыс, А. Пашэнка, Д. Сілко, В. Сьпеталюн**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце **e-krama.com***